*Да 60-годдзя ўз'яднання Беларусі*

# “Як было – так было”,-

так адказала мне мама на мае дэталёвыя роспыты пра падзеі верасня 1939 года, калі я ў сваe пятнаццаць гадоў ачмураны бальшавіцкаю прапагандаю, захацеў ведаць наконт таго яе палітычнае меркаванне. Ды яшчэ мне вельмі захацелася, каб яна ўхваліла і Чырвоную Армію і новую ўладу. Яна, як трыццаць гадоў таму назад, так і зараз не хваліць тых, хто панаваў тут да верасня 1939 года і не радуецца тым, хто змяніў іх потым.

Як было – так было. Гэтае вызначэнне падзей таго часу, як нельга дакладна, характарызуе стаўленне простых людзей да той далёкай пары. Гісторыкі рознага кшталту маюць свае меркаванні пра падзеі таго часу, прычым іншы раз даволі супрацьлеглыя. Палітыкі намагаюцца скарыстаць факт ўз'яднання Беларускіх зямель для падняцця свайго прэстыжу, як гэта робіцца зараз. А простыя людзі, хто ў свой час перажыў гэтае ўз'яднанне, ставяцца з практычнага боку: ці лепей стала жыць?

***Дык як жа яно ўсё ж было?***

У той час мая маці, Браніслава Уладзіміраўна, жыла на хутары, бадай, як большасць сялянаў Заходняй Беларусі. Жыла разам з трыма братамі. Бацька памёр, калі ёй было чатыры гады, у дзесяць гадоў не стала маці. Уся хатняя жаночая праца перайшла да яе. У свой час каб набыць зямлю бацька ездзіў у Варшаву ў гаспадарчы банк па пазыку і ўжо сыны сплачвалі яе да самае вайны 1939 года. Вялікага дастатку не было, але не галадалі. Нягледзячы на тое, што яны былі каталікі, але тую ўладу недалюблівалі і, каб дасціпна ахарактарызаваць той час, маці мая карыстаецца вельмі простым выразам: “А пражыла, як на свіні праехала”. Тым не менш новую ўладу вітаць браты не пабеглі, хоць з бліжэйшых хутароў набралася сем чалавек, у асноўным тыя ў каго было мала зямлі ці асабліва не рупіліся на ёй. Яны з чырвонымі сцягамі пайшлі за дзесяць кіламетраў у мястэчка вітаць новую ўладу. І савецкая ўлада ім аддзячыла: пры новым адміністрацыйным дзяленні атрымалі пасады ў сельсаветах. Працавалі гэтыя людзі там, як шчыравалі на сваёй зямлі, дый не доўга, бо новая вайна ліквідавала саветы, а па яе заканчэнні гэтыя людзі ўладзе не спатрэбіліся. А іншыя, што з перасцярогаю паставіліся да ўсходніх вызвольнікаў, ужо кпілі з таго чырвонага паходу, бо былі такія, каб даказаць вернасць новай уладзе выкідалі на сметнік абразы: ведалі – яна бязбожная.

У хуткім часе сярэдні брат Янка, каб мець заробак, уладкоўваецца працаваць на чыгунку, у брыгаду па рамонту каляі. Працаваць даводзілася, як на Каляды, так і на Вялікдзень ды іншыя святы. Новая ўлада бязбожная ў сваёй сутнасці прымушала веруючых людзей чыніць грэх.

Іх сям'ю найбольш уразіў візіт аднаго з вызвольнікаў. Салдата з Разаншчыны частавалі мёдам. Ён сёрбаў яго лыжкаю ды хваліўся, што пчолы ў іх у Расеі быццам авечкі. На запытанне брата, тады ж якія ўжо ў іх вуллі ды ляткі зазначыў, што такія, як тут ды зноў чэрпаў мёд лыжкаю. Мёд цёк па немытых пальцах, вызвольнік аблізваў іх ды сцвярджаў, што расейскія пчолы ў гэыя вуллі праз звычайныя ляткі трашчаць, пішчаць, а лезуць. А як з'еў міску мёду ды аблізаў пальцы, стаў казаць пра невядомыя гаспадарам калгасы з іх райскім жыццём. Толькі гаспадары ніяк не маглі зразумець; як гэта жыць без зямлі.

Як былая так і новая ўлада да простых людзей ставілася варажнеча. Гэта давялося адчуць на сабе малодшаму брату Баляславу. Ён, ад пачатку вайны быў прызваны ў войска, але выжываць не давялося. Іх вайсковая адзінка знаходзілася на Берасцейшчыне і, калі Чырвоная Армія рушыла на захад, то ў польскім войску знікла надзея, што браты – славяне рушылі на дапамогу, і яны ўсе разам пагоняць немцаў назад прэч. Выйшла наадварот. Іх раззброілі ды прыставілі канвой, затым пагрузілі ў цялячыя вагоны і павезлі ў невядомым кірунку. Апынуліся ў канцлагеры пад Харкавым. Елі сырую бручку. Кожную раніцу 2-3-х ваеннапалонных знаходзілі мёртвых. Зразумеўшы свой безвыхадны стан дзядзька Баляслаў з сябрам з Вільні ўцякаюць. Сотні, калі не тысячы кіламетраў давялося прайсці ім па дарогах Украіны. Не гледзячы, што Савецкая ўлада на тых тэрыторыях усталявалася даўно, не ўсе былі задаволены ёю, і таму палонныя ўцякачы знаходзілі прытулак, ежу ды апратку. Пешкам дайшлі да Берасця. Там невядомы чалавек, рызыкуючы сваім жыццём, схаваў ад праследу патруля, а ноччу пасадзіў на цягнік, што ішоў да Беластока. Тут сябры разышліся. Лёс – зманлівая штука. Прапакутаваўшага столькі, за кіламетр ад дому дзядзьку спыняе расейскі патруль. У той час слова “рабочы” для замбаванага савецкага чалавека было святое. І дзядзька такім назваўся. Яго адпусціў начальнік патруля толькі тады, калі ша-раговы аўтарытэтна зазна-чыў: “Дык гэта ж рабочы. Па ім бачна”.

Але не ўсе жаўнеры Войска польскага верылі таму, што прыйшлі вызвольнікі. Вось аб чым сведчыў знаёмы з суседняй вёскі, які таксама служыў у той час: “ Бачу ідуць восем чырвонаармейцаў. Важна ідуць, як паны. Я схаваўся і з-за вугла гумна выстраліў. Адзін салдат упаў, астатнія, як ламанулі наўцёкі”.

За колькі кіламетраў была сяліба асадніка. Чалавек жыў не багата. Меў шэсць дзяцей, дый зямля ў нашых мясцінах асабліва не ўрадлівая. Перад новым 1940 годам яго забралі разам з жонкаю і дзецьмі. Зіма тая была суровая і людзі не даехалі да свайго месца прызначэння. Проста змерзлі ў цялячых вагонах. Маёмасць асадніка падзялілі між сабою тыя, хто раскулачваў. Асабліва шыкавалі жонкі вызвольнікаў у гарнітурах сасланай кабеты.

Быў і такі выпадак. Кіламетраў за дваццаць жыў пан з жонкаю ды з дзвюма дочкамі. У тую ж восень прыслуга яго разбеглася і савецкая ўлада, што змагалася з эксплуатацыяй працоўнага чалавека забараніла яму наймаць сялянаў, каб выкапаць бульбу. І вымушаны быў той пан з жонкаю ды дочкамі ісці ў поле. Сяляне навакольных вёсак хадзілі глядзець, як паны капаюць бульбу, як на цуд.

У гэтых расповедах не адчуваецца ні велічнасці ні значнасці моманту. Да ўсялякіх зменаў людзі ставяцца з свайго практычнага жыццёвага досведу і параўноўваюць, як жылося да таго і як жывецца пасля таго. Перш за ўсё дзеля палітычных барышоў уздымаць на святло тую падзею, як эпахальную ў нашым жыцці, магчыма, не варта. Не ўз'яднанне беларускага народа ставілі на мэце ў той час дыктатары, а захоп чужых тэрыторый. Гэта было пачаткам другой сусветнай вайны, што замардавала кожнага чацвёртага беларуса.

Нават у былыя савецкія часы мала хто ўздымаў на тарчу тагачаснае ўз'яднанне. Каб яно было так, то Беласток і Вільна належалі б Беларусі, а не сталі б разменнай манетай у чужынскіх руках. Нашай тэрыторыяй больш гандлявалі, чым клапаціліся аб аб'яднанні.

Дый простыя людзі, сведкі тых далёкіх падзей, казалі пра тую вайну так: “ Немец дамовіўся з рускімі і разабралі Польшчу”.

Магчыма, праўда; вуснамі простых людзей гаворыць ісціна.

*Язэп Палубятка,*
*г. Масты.*

# Заходняя Беларусь - 1939 год




**Карта Заходня й Беларусі ў складзе Польшчы 20-30 гады XX ст.**

Багатая экспазіцыя, прысвечаная 60-годдзю далучэння Заходняй Беларусі да БССР, экспануецца ў гэтыя дні ў Гарадзенскім абласным краязнаўчым музеі. Яна ўключае прадметы быту 30-х гадоў, фотаздымкі гістарычных падзей 1939 года.
На здымку: карта Заходняй Беларусі.
Фота Генадзя Сямёнава, Аляксандра Талочкі, БелТА.



**Верасень 1939 года. Горадня, на першым плане ўмацаванні з калючага дроту, якія засталіся пасля адступлення польскай арміі. Фота БелТА.**



**Дэпутаты Народнага Сходу Заходняй Беларусі: Р. Габец, Сяўрук, Баўсюк, Барысевіч, г. Беласток, 1939 г. Фота БелТА.**



**Заходняя Беларусь, 1939 год. Вайна пакуль што скончылася. Бежанцы вяртаюцца дадому. Фота БелТА.**





*Як гэта было*

*Да 60-годдзя ўз'яднання Беларусі*

# Чацвёрты (вераснёўскі) падзел Рэчы Паспалітай

*1 верасня 54 нямецкія дывізіі, у тым ліку 6 танкавых і 6 матарызаваных (2800 танкаў, 6000 гармат і мінамётаў) рынуліся на Польшчу, падтрыманыя дзвюмя тысячамі самалётаў. Польскае камандаванне да пачатку баявых дзеянняў змагло разгарнуць 24 пяхотныя дывізіі, 8 кавалерыйскіх, 1 бронематарызаваную, 3 горнастралковыя брыгады і 56 батальёнаў нацыянальнай абароны – 1 мільён чалавек, 4300 гармат, 220 лёгкіх танкаў, 650 танкетак, 407 самалётаў.*

***Газета "Праўда" 2 верасня 1939 г.***

ТАСС. "Па паведамленню Германскага інфармацыйнага бюро, сягоння раніцай германскія войскі ў адпаведнасці з указам вярхоўнага камандавання перайшлі германа-польскую мяжу ў розных месцах. Злучэнні германскіх ваенна-паветраных сілаў таксама накіраваліся бамбіць вайсковыя аб'екты ў Польшчы".

**Паседжанне Германскага рэйхстага. Выступ Гітлера.**

"Барацьба паміж Германіяй і СССР можа быць карысна толькі трэцім дзяржавам. Германа-савецкі пакт таму выключае магчымасць прымянення сілы паміж гэтымі дзвюмя краінамі. Абедзве дзяржавы далі адна другой абавязацельствы кансультавацца і эканамічна супрацоўнічаць... Пакт быў ратыфікаваны і ў Берліне, і ў Маскве ў чацвер, - сказаў Гітлер. Гітлер заявіў, што ён можа далучыцца да кожнага слова, якое сказаў народны камісар па замежных справах Молатаў у сувязі з гэтым..."

**Гістарычная сесія Вярхоўнага Савета СССР.**

"Тав.Молатаў з вычарпальнай паўнатой і яснасцю раскрыў прычыну ўсёй гэтай няшчырай, ілжывай гульні. Англійскія і французскія палітыкі намагаліся сутыкнуць ілбамі савецкі і германскі народы. Асабліва стараліся... так званыя сацыялісты Англіі і Францыі. Гэтыя дробныя палітыканы не ўлічылі таго, што маюць справу з вялікай сацыялістычнай дзяржавай..."

*3 верасня ў 11 гадзін кіраўніцтва Англіі аб'явіла вайну Германіі, пазней шасці гадзін тое ж самае зрабіла Францыя. ЗША заявілі аб сваім нейтралітэце. Італія аб'явіла што не ваюе.*

**Рыбентроп** *(імперскі міністр замежных спраў)* **Шуленбургу** *(германскаму паслу ў Маскве).* ***Тэлеграма. 3.09.1939г. Вельмі тэрмінова! Асабіста... Павінна быць расшыфравана асабіста! Вельмі сакрэтна!***

"... Мы ўтрымаем пад ваеннай акупацыяй раёны, якія, як было ўстаноўлена ў Маскве, уваходзяць у германскую сферу ўлады. Аднак зразумела, што па ваенных уяўленнях нам давядзецца затым дзейнічаць супраць тых польскіх ваенных сіл, якія да таго часу будуць знаходзіцца на польскіх тэрыторыях, уваходзячых у рускую сферу ўлады. Калі ласка, абмяркуйце гэта з Молатавым тэрмінова і паглядзіце, ці не палічыць Савецкі Саюз пажаданым, каб руская армія выступіла ў падыходзячы момант супраць польскіх войскаў у рускай сферы ўлады і, са свайго боку, акупавала гэтую тэрыторыю".

**Шуленбург у Міністэрства замежных спраў (МЗС) Германіі.**

***Тэлеграма. 5.09.1939г. Вельмі тэрмінова! Зусім сакрэтна!***

" Молатаў ... перадаў мне наступны адказ савецкага кіраўніцтва: "Мы згодны з вамі, што ў падыходзячы час нам будзе неабходна пачаць канкрэтныя дзеянні. Мы лічым, аднак, што гэты час яшчэ не настаў... Мы памятаем, што ў ходзе аперацыі адзін з бакоў, або абодва бакі могуць быць вымушаны часова перасячы дэмаркацыйную рысу паміж сваімі сферамі ўлады, але падобныя выпадкі не павінны перашкодзіць непасрэднай рэалізацыі немечанага плана".

*6 верасня немцы авалодалі старажытнай сталіцай Польшчы Кракавам. Польскае кіраўніцтва таемна пакінула Варшаву і перабралася ў Люблін. На нямецка-французскіх межах ніхто ні ў кога не страляе.*

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 6.09.1939 г.***

"Савецкае кіраўніцтва робіць усё магчымае, каб змяніць адносіны насельніцтва да Германіі. Прэсу, як падмянілі... прыпадносячы цяпер звесткі знешняй палітыкі заснаваны ў пераважнай большасці на германскіх звестках... савецкае кіраўніцтва заўжды па-мастацку ўплывала ў пажаданы для яго бок на сваё насельніцтва, і на гэты раз яно таксама не скупіцца на неабходную прапаганду".

*8 верасня 4-ая танкавая дывізія выйшла да прадмесцяў Варшавы.*

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 9.09.1939г. Вельмі спешна!***

"Я толькі што атрымаў ад Молатава наступную тэлефанаграму: "Я атрымаў ваша паведамленне аб тым, што германскія войскі ўвайшлі ў Варшаву. Калі ласка, перадайце мае віншаванні і прывітанні Кіраўніцтву Германскай Імперыі".

*9 верасня дзесяць французскіх дывізій на фронце ў 32 км прасунуліся на глыбіню 3-8 км. Немцы без бою адышлі.*

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма.9.09.1939г. Тэрмінова! Вельмі сакрэтна! Асабіста.***

"...Я лічыў бы неадкладным узнаўленне Вашых гутарак з Молатавым адносна савецкай ваеннай інтэрвенцыі".

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 9.09.1939г. Тэрмінова! Вельмі сакрэтна!***

"Молатаў заявіў мне сягодня ў 15 гадзін, што савецкія ваенныя дзеянні пачнуцца на працягу бліжэйшых некалькіх дзён".

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 10.09.1939 г. Тэрмінова! Вельмі сакрэтна!***

"На сённяшняй сустрэчы... Молатаў змяніў сваю ўчарашнюю заяву, сказаўшы, што савецкае кіраўніцтва было заспета зусім знянацку нечакана хуткімі германскімі ваеннымі поспехамі... Савецкія ваенныя ўлады апынуліся ў цяжкім становішчы... Я вельмі падрабязна растлумачыў Молатаву, наколькі... важныя хуткія дзеянні Чырвонай Арміі... Затым Молатаў падышоў да палітынага боку пытання і заявіў, што савецкае кіраўніцтва намервалася выкарыстаць далейшае перамяшчэнне германскіх войск і заявіць, што Польшча развальваецца на кавалкі і што ў сувязі з гэтым Савецкі Саюз павінен прыйсці на дапамогу ўкраінцам і беларусам, якім "пагражае" Германія. Гэта прапанова ўявіць інтэрвенцыю Савецкага Саюза высакароднай ў вачах масаў і дасць Савецкаму Саюзу магчымасць не выглядаць аграсарам".

*12 верасня на паседжанні вярхоўнай рады англа-французскай кааліцыі было вырашана спыніць наступленне.*

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 14.09.1939 г. Тэрмінова! Вельмі сакрэтна!***

"Молатаў выклікаў мяне сягоння ... і заявіў, што... савецкія дзеянні... могуць пачацца раней указанага... тэрміну... Улічваючы палітычныя матывы савецкай акцыі (падзенне Польшчы і абарона рускіх меншасцяў) было б крайне важна не пачынаць дзейнічаць да таго, як падзе адміністрацыйны цэнтр Польшчы-Варшава. Молатаў таму просіць, каб яму, як мага больш дакладна перадалі, калі можна разлічваць на захоп Варшавы".

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма. 15.09.1939 г. Тэрмінова! Вельмі Сакрэтна! Асабіста.***

"Я прашу Вас тэрмінова перадаць Молатаву наступнае:

1. ... Мы разлічваем заняць Варшаву на працягу бліжэйшых некалькіх дзён.

2 ... Мы лічым сябе звязанымі размежаванымі сферамі ўлады узгодненымі ў Маскве...

3. ... Мы заключылі, што ... савецкае кіраўніцтва... гатова пачаць свае аперацыі ўжо цяпер. Мы падтрымліваем гэта. Савецкае кіраўніцтва, такім чынам, вызваліць нас ад неабходнасці знішчыць рэшткі польскай арміі, праследуючы іх аж да рускай мяжы... калі не будзе пачата руская інтэрвенцыя, непазбежна паўстане пытанне аб тым, ці не створыцца ў раёне, што ляжыць на ўсходзе ад германскай зоны ўплыву, палітычны вакуум. Паколькі мы, са свайго боку, не намераны прадпрымаць у гэтых раёнах якія-небудзь дзеянні палітычнага ці адміністрацыйнага характару, што стаяць адасоблена ад неабходных ваенных аперацый без такой інтэрвенцыі з боку Савецкага Саюза могуць узнікнуць умовы для фармавання новых дзяржаў.

5....Мы падразумеваем, што савецкае кіраўніцтва ўжо адкінула ў бок думку, ... што асновай для савецкіх дзеянняў з'яўляецца пагроза украінскаму і беларускаму насельніцтву, зыходзячая з боку Германіі. Указанне матыву такога сорту – дзеянне немагчымае. Ён процілегла рэальны германскім памкненням, якія абмежаваны выключна... зонамі германскага ўплыву. Ён таксама пярэчыць дамовам, дасягнутым у Маскве, і, нарэшце, насуперак выказанаму абедзвюма бакамі жаданню мець сяброўскія адносіны, пакажа ўсяму свету абедзве дзяржавы як ворагаў.

6. ... Мы будзем удзячныя, калі савецкае кіраўніцтва прызначыць дзень і час, у які яго войскі пачнуць наступленне, каб мы, са свайго боку, маглі дзейнічаць адпаведна. З мэтай неабходнай каардынацыі ваенных аперацый абодвух бакоў патрэбна таксама, каб прадстаўнікі абедзвюх дзяржаў, другімі словамі, германскія і рускія афіцэры, што знаходзяцца на месцах, у зонах аперацый, правялі сустрэчу для прыняцця неабходных мер..."

*15 верасня танкавы корпус Гудэрыяна выйшаў да Берасця. У гэты ж дзень арміям Беларускага фронту "быў дадзены загад, на світанку 17-га перайсці ў наступ для садзейнічання паўстаўшым рабочым і сялянам Беларусі, Польшчы ў звяржэнні іга памешчыкаў і капіталістаў і не дапусціць захопу тэрыторыі Заходняй Беларусі Германіяй". 16 верасня польскае кіраўніцтва збегла ў Румынію.*

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма 16.09.1939 г. Тэрмінова! Вельмі сакрэтна!***

"... Молатаў заявіў, што ваенная інтэрвенцыя Савецкага Саюза адбудзецца, магчыма, заўтра ці паслязаўтра... Молатаў дадаў, што ... Савецкае кіраўніцтва мае намер матываваць свае дзеянні наступным чынам: польская дзяржава распалася і болей не існуе, таму анулююцца ўсе пагадненні, заключаныя з Польшчай; трэція дзяржавы могуць паспрабаваць атрымаць карысць з склаўшагася хаосу; Савецкі Саюз лічыць сваім абавязкам выступіць для абароны сваіх украінскіх і беларукіх братоў і даць магчымасць гэтаму няшчаснаму насельніцтву працаваць спакойна... Молатаў згадзіўся з тым, што запланаваная савецкім кіраўніцтвам умова змяшчала ў сабе ноту, крыўдную для пачуццяў немцаў, але прасіў, ... не дазваляць такім дробязям паўставаць на нашым шляху. Савецкае кіраўніцтва, нажаль, не бачыла якой-небудзь іншай прапановы, паколькі да гэтага часу Савецкі Саюз не хваляваўся аб сваіх меншасцях у Польшчы і павінен быў так ці інакш апраўдаць за мяжой сваё цяперашняе ўмяшанне..."

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 17.09.1939 г. Вельмі тэрмінова! Сакрэтна!***

"Сталін прыняў мяне ў дзве гадзіны ночы і заявіў, што Чырвоная Армія перасячэ савецкую мяжу ў 6 гадзін раніцы на ўсім яе працягу... Каб пазбегнуць інцыдэнтаў, Сталін спешна просіць нас прасачыць за тым, каб нямецкія самалёты, пачынаючы з сённяшняга дня, не залятаі далей ўсходняй лініі Беласток-Брэст-Літоўск-Лемберг (Львоў). Я... прасіў, каб сёння савецкія самалёты не падлятаі да ўпамянутай лініі вельмі блізка... Сталін зачытаў мне ноту, якая будзе ўручана ўжо гэтай ноччу польскаму паслу і копія якой... будзе разаслана ўсім місіям, а затым апублікавана. У ноце даецца апраўданне савецкіх дзеянняў. Зачытаны мне праект утрымліваў тры пункты, для нас непрыемальныя. У адказ на мае пярэчанні Сталін з крайняй гатоўнасцю змяніў тэкст так, што цяпер нота нас цалкам задавальняе..."

***Газета "Праўда" 18.09.1939г.*** **Нота кіраўніцтва СССР, уручаная польскаму паслу ў Маскве...**

" ... Польска-германская вайна выявіла ўнутраную беднасць польскай дзяржавы... Варшава, як сталіца Польшчы, не існуе болей. Польскае кіраўніцтва распалася і не праяўляе прыкмет жыцця. Гэта значыць, што польская дзяржава і яе кіраўніцтва фактычна перасталі існаваць. Тым самым перасталі дзейнічаць дамовы, заключаныя паміж СССР і Польшчай. Прадстаўленая самой сабе і пакінутая без кіраўніцтва, Польшча ператварылася ў зручнае поле для ўсякіх выпадковасцяў і нечаканасцяў, што могуць стварыць пагрозу для СССР. Таму, будучы да гэтага часу нейтральным, савецкае кіраўніцтва не можа болей нейтральна адносіцца да гэтых фактаў. Савецкае кіраўніцтва не можа таксама абыякава адносіцца да таго, каб аднакроўныя ўкраінцы і беларусы, што пражываюць на тэрыторыі Польшчы, кінутыя на волю лёсу, засталіся безабароннымі. З прычыны такіх абставін савецкае кіраўніцтва аддало распараджэнне .. перайсці мяжу і ўзяць пад сваю ахову жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Адначасова савецкае кіраўніцтва намерана прыняць усе меры да таго, каб вызваліць польскі народ ад злапалучнай вайны, куды ён быў штурхнуты яго неразумнымі кіраўнікамі, і даць яму магчымасць зажыць мірным жыццём".

***Газета "Праўда" 18 верасня 1939 г.*** **Прамова па радыё... В.М.Молатава 17.09.1939г.**

"...Ад савецкага кіраўніцтва нельга ... патрабаваць абыякавых адносін да лёсу аднакроўных украінцаў і беларусаў, пражываючых у Польшчы і раней знаходзячыхся ў становішчы бяспраўных нацый, а цяпер і зусім кінутых на волю лёсу. Савецкае кіраўніцтва лічыць сваім святым абавязкам падаць руку дапамогі сваім братам - украінцам і братам - беларусам, што насяляюць Польшчу. ... Кіраўніцтва звяртаецца таксама да грамадзян Савецкага Саюза... ўзнікла памкненне назапасіць як мага больш харчавання і іншых тавараў з асцярогі, што будзе ўведзена картачная сістэма ў галіне забяспечання... Наша краіна забяспечана ўсім неабходным і можа абыходзіцца без картачнай сістэмы..."

**Шулембург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 18.09.1939 г. Тэрмінова. Вельмі сакрэтна!***

"У ходзе гутаркі, якая адбылася ў мяне гэтым вечарам... Сталін заявіў неяк нечакана, што з Савецкага боку ёсць відавочныя сумненні адносна таго, ці будзе нямецкае вярхоўнае камандаванне прытрымлівацца маскоўскага пагаднення ... і вернецца на лінію, якая была вызначана ў Маскве... Яго хваляванне было заснавана на тым, добра вядомым факце, што ўсе вайскоўцы ненавідзяць вяртаць захопленыя тэрыторыі... Генерал-лейтэнант Кестрынг дадаў, што нямецкія ўзброеныя сілы будуць рабіць толькі тое, што загадае Фюрэр. Улічваючы добра вядомую недаверлівасць Сталіна, я быў бы ўдзячны, калі б мне дазволілі зрабіць дадатковую заяву такога характару, якая б развеяла яго апошнія сумненні".

***Матэрыял падрыхтаваў кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін.***

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

**АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ**

# ІНТЭЛІГЕНТЫ

**Драма ў дзвюх дзеях**

**Менск – 1998**

*(Праця́г. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**БАЗЫЛЬ.** Хай ёй хоць там будзе лёгка. *(Слёзы цякуць па яго шчаках).*

*Абодва пятаропка выпіваюць. Янка закурвае. Садзіцца на сянік, па-турэцку падкурчыўшы ногі. Бутэлька і закусь – побач.*

Яна апошнім часам таксама курыць стала... Я пытаюся, навошта гэтыя фокусы, а яна мне пад усмешку: сына не нарадзілі – няхай у хаце мужчынам запахне. Падтэкст яшчэ той. Хоць, як мужчына, я ... Іншы, словам, падтэкст, палітычны. Пра цябе гэтага яна б не сказала... *(Доўгая паўза.)* Як яна мяне з пясочкам чысціла, стружком стругала, шкрэблам шкрабла, каб здзерці партыйна-савецкую кару. А я на сваім... Закапылюся... і, як бык. А цяпер думаю, а што, калі яе праўда была... Як пасля гэтага жыць? Як дажываць? Каму верыць? На каго і з кім ісці?.. А, можа, нікуды не ісці?.. Мусіць, у такім стане людзі ў манастыр ідуць... А што я ведаю пра манастыр?.. Служыў усё жыццё, як медны кацялок. Хадзіў па струнцы. Выцягваўся ў нітку. Ні ўправа, ні ўлева, а толькі па цэнтру лініі. А лінія раптам узяла ды і скончылася... Калі і не халуяжыў перад вышэй сядзячымі, то і годнасці вялікае не меў. Так, вінцік-шпунцік. Я нават не чэхаўскі Белікаў. Той хоць выпадкова, не жадаючы, а на патыліцу гараднічаму чыхнуў, а я і да гэтага не здатны, а мучуся, як ён, хоць ні ў чым ні перад кім не вінаваты, можа, акрамя Яе...

**ЯНКА** *(падае Базылю налітую чарку і сваю бярэ).* За ўпакой яе душы...

*Апаражніваюць чаркі.*

**БАЗЫЛЬ.** Пражыў чалавек жыццё, як у ступе стоўк. Жыў па партыйнай праграме, дзяцей вучыў па школьнай праграме. Шаг улева, шаг управа – і табе каюк, і на табе высмаленае кляймо, як на рабочай скаціне – і не сатрэш, і не змыеш. Як жа ёй цяжка было жыць са мною, і наогул жыць... без праграмы. Яна заўсёды хацела жыць вольна, незалежна, светла і лёгка. Пэўна так жывуць толькі птушкі... Ведала безліч песень, любіла музыку. А сама ніколі не спявала. Нібы саромелася. *(Паўза).* Просьба ў мяне: калі ёсць у цябе верш, хоць адзін, які ты ёй прысвяціў, прачытай на развітанне з яе душою... Хоць адзін... Саракавы дзень – час адлёту душы... Нічога добрага Яна ад мяне не мела... Няхай ад цябе хоць верш будзе...

**ЯНКА.** Коцікі...

**БАЗЫЛЬ.** Што?

**ЯНКА.** Коцікі... Жаўцеюць коцікі ля рэчкі...

**БАЗЫЛЬ.** А-а...

**ЯНКА.** Дыхнула дальняю парой, калі ў такі ж вясновы вечар ламалі коцікі з табой. *(Падыходзіць да фотаздымка.)* А ты смяялася шчасліва, а ты іх гладзіла рукой. І трапятаўся над разлівам жаўрук, усцешаны вясной... Кранала коцікі губамі. Яны ж азябліся цвілі... І я зайздросціў (паміж намі) ім, як нікому на зямлі... Час той сышоў за вербалозы з вясновай буйнаю вадой... Жаўцеюць коцікі ля Сожа, што не ламаем больш з табой...

**БАЗЫЛЬ** *(пасля доўгай паўзы).* Яна будзе рада... *(Налівае чаркі, адну перадае Янку).*

*Нейкі час стаяць моўчкі.*

На канчатковае развітанне... Адпусцім яе душу... Цяжка ёй з намі... як я думаю...

*Выпіваюць. Слёзы цякуць па шчаках Базыля. Янка прыхінае яго да сябе, а ён рэзка адхінаецца.*

*(Нечакана, рашуча.)* Ну, з гэтым мы ўправіліся, цяпер можна пагаварыць на цвярозую галаву і без сантыментаў, і без пафаснага надрыву, уласцівага паэтам. *(Фотаздымак жонкі пераварочвае тварам да сцяны, садзіцца на сваю бляшаную выварку, Янку прапаноўвае крэсла).*

**ЯНКА.** Даруй, я цябе не зусім разумею...

**БАЗЫЛЬ.** А што тут разумець. Рускія ў такіх выпадках кажуць: "поговорим за жизнь".

**ЯНКА.** Я не думаю, што рускія ў гэтым вельмі арыгінальныя. Мы таксама можам пагаварыць за жыццё... І лепш бы *(ківае на партрэт)* без сведкаў...

**БАЗЫЛЬ.** Не бойся – гэты мне свой... І хацеў бы я, харошы ты мой, адразу ўзяць цябе за рогі...

**ЯНКА.** За рогі – не за жабры. Паспрабуй, калі намацаеш...

**БАЗЫЛЬ.** Думаю, што намацаю. Хіба не памятаеш, як маці твая любіла сказаць: "Ну, свавольнік, рогі на табе параслі... " І здаецца мне, што да гэтага часу табе іх ніхто не пазбіваў...

**ЯНКА.** І ты не пазбіваеш...

**БАЗЫЛЬ.** Хадзі рагатым... Скажы, толькі чэсна: ты нікога і нічога не баішся?..

**ЯНКА.** Не – а – а...

**БАЗЫЛЬ.** І дасягнуў, чаго хацеў?

**ЯНКА.** Я дасягнуў свабоды. Волі душы. Усё астатняе – наперадзе і не дзеля аднаго мяне.

**БАЗЫЛЬ.** Можа ты і пра Гавела з Рэйганам не жартаваў?

**ЯНКА.** Вядома ж, жартаваў... *(Ківае на партрэт.)* Палітык – Ён у нас нейпершы. І ў іх усё, што ўзяць змаглі. А мне багі дыктуюць вершы. Дык хто з нас першы на зямлі?!

**БАЗЫЛЬ.** Не распускай хваста, паўлін паўлінавіч, а лепш падзяліся вопытам, як дасягнуў людскага жыцця і дастатку ў гэтым бардаку. Па ўсяму бачу, на хлеб ты не пазычаеш...

**ЯНКА.** Усё вельмі проста. Шукай волю, свабоду – з ёю яно і прыйдзе, цікавае жыццё. Жыві і яшчэ хочацца.

**БАЗЫЛЬ.** Дыпламат. У ступе таўкачом не зловіш.

**ЯНКА.** Гэта толькі таму, што мяне доўга таўклі...

**БАЗЫЛЬ.** Усіх нас добра таўклі, ды нешта так, як ты, я не ўмею. Мусіць, не там шукаю...

**ЯНКА.** Табе не пашанцавала. Растаўклі адразу, канчаткова... і ў дробны друзак. І наўрад ці збярэшся ўжо... у нешта цэльнае.

**БАЗЫЛЬ.** А ты мяне ў сваю бэнээфаўска-адраджэнчаскую фірму вазьмі. Сам будзеш вершы складаць пад дыктоўку Бога, а я – улёткі: Беларусь у Эўропу... Мо і мне што перападзе ад дзядзькі Сэма ці якога Сораса... На новы "адзідас" *(дэманструе локці з працёртымі).*

**ЯНКА.** Прабач, братка, каб не памыліцца, — ні ў бэнэф, ні ў іншыя партыі не ўваходжу. Служу толькі Айчыне.

**БАЗЫЛЬ.** Тады хоць парай нешта. Паспагадай, калі не, як земляку, то хоць, як суайчынніку.

**ЯНКА.** Я табе параіў бы ўжо сваіх трымацца. На іх і спадзявацца. Мо і паспагадаюць за былыя заслугі і бездакорную пакору. Даруй за дурны каламбур. Сам бачыш, апазіцыя разгромлена, да вертыкалі любоў "усенародная". А па гарызанталі "знакомые всё лица" ад сакратара райкома да генсека. Цяпер, як, між іншым, і раней, у іх руках не толькі ўся ўлада, але і ўся кілбаса – ад самай танюсенькай да самай тоўстай. Куды ж табе яшчэ ад кілбасы...

**БАЗЫЛЬ.** Я з табой сур'ёзна, а ты блазнуеш.

**ЯНКА.** Баронь Бог! Хіба табе не зразумела – усё, што было наша, стала іхнім па праву хітрэйшага і мацнейшага. Раней яны былі нам толькі начальнікамі, а цяпер сталі яшчэ і гаспадарамі. Называецца гэта ўсё тым жа сацыялізмам, толькі кірмашовым. І ўведзены ён, як ты ведаеш, выключна па жаданні працоўных, якія цяпер маюць мянушку – электарат. Тваё шчасце і дабрабыт у іх руках. А паколькі зараз у цябе і электарата канкрэтных ворагаў няма, акрамя, можа, толькі мяне, то застаецца табе мірна, спакойна і паўсядзённа любіць усіх сваіх куміраў і па вертыкалі, і па гарызанталі. І "воздастся" вам, ёлупням цара нябеснага і зямнога ліvернай кілбасой і аднапрацэнтным малаком на дзесяць даляраў у месяц. Ну, а "Adidas" ад немцаў па гуманітарцы...

**БАЗЫЛЬ.** Злосна, нахабна... але недзе ў нечым пераканаўча... І доўга так будзе?..

**ЯНКА.** Пры вашай так званай талерантнасці, а дакладней, масавай прыдуркаватасці – да другога прышэсця.

**БАЗЫЛЬ.** Уцешыў.

**ЯНКА.** Па заслугах і ўзнагарода.

**БАЗЫЛЬ.** Жорсткі ты чалавек. А лічышся ў інжынерах чалавечых душ.

**ЯНКА.** Вас загубілі не інжынеры душ, а многагадовая, татальная, беспрасветная пакора. Нават пасля таго, як з вас у дзевяноста першым знялі ашыйнікі, вы не засталіся на волі, а зноў, самахоць, улезлі ў свае кануры. А ты ўшчаміўся нават у міністэрскую.

**БАЗЫЛЬ.** А можа б ты мяне выкупіў... з кануры і міністэрскага рабства?... Га...

**ЯНКА.** Яны запросяць за цябе столькі, колькі я не змагу даць. Ім трэба вельмі многа такіх, як ты. Без вас, талерантных і затурканых, яны нішто. Яны проста ніжэйляжачыя халуі перад халуямі вышэйсядзячымі.

**БАЗЫЛЬ.** Выходзіць, і ў вас грошы вялікія, каб халуёў перакупіць...

**ЯНКА.** У нас іх зусім няма.

**БАЗЫЛЬ.** Тады з чым жа вы супраць іх? З вершамі?..

**ЯНКА.** Мы з ідэяй...

**БАЗЫЛЬ.** Цікава, з якой?

**ЯНКА.** З нацыянальнай. Толькі і ўсяго...

**БАЗЫЛЬ.** Нацыянальстычная ў вас ідэя, а гэта ўжо...

**ЯНКА** *(перапыняе і нібы дыктуе).* Абапіраючыся на нацыянальную ідэю, якой беларусы жывуць і кіруюцца спрадвеку, яны хочуць захаваць сваю дзяржаўнасць, незалежнасць і нейтральнасць. Не дапусціць уключэння сваёй Бацькаўшчыны ў склад любой суседняй дзяржавы, адрадзіць гістарычную памяць і вярнуць народу нацыянальную школу і родную мову, усталяваць добрасуседскія адносіны найперш з краінамі і народамі-суседзямі, а сваю краіну і дзяржаву вывесці ў цывілізаваны свет, застаючыся ў ім сабою. Калі гэта для цябе нацыяналізм, тады яны мяне нацыяналістам – гэта толькі надасць мне годнасці.

**БАЗЫЛЬ.** Дапусцім, што гэта я яшчэ пракаўтнуў бы, але...

**ЯНКА.** Пракаўтнулі б і іншыя, калі б ім, як і табе, свае калабаранты і наезджыя шавіністы не забілі глузды нахабнай хлуснёй і пра апазіцыю, і пра нацыяналізм, і пра пісакаў, што не прымаюць галаву на вертыкалі за бога сонца.

**БАЗЫЛЬ.** У большасці сваёй, як мне падабаецца, пісакі – якраз і ёсць халуі і прахіндзеі. Якая б улада не прыйшла, а яны ў яе – падручныя... Мы – эліта! Мы – інтэлект! Мы – мазгі нацыі!.. Гаўно вы, а не мазгі...

**ЯНКА.** Пра гэта ўжо адзін гаварыў...

**БАЗЫЛЬ.** З нашых хто-небудзь?

**ЯНКА.** Сам Уладзімір Ільіч. Так і сказаў: "интелигенция не мозг нации, а гавно нации".

**БАЗЫЛЬ** *(у захапленні).* Малайчына!... І сапраўды, дзе гэта вы былі раней, такія разумнікі?! Чаму гэта вас, за малым выключэннем, ніколі не было чуваць?.. Чаму толькі адзін Народны Фронт драў глотку на вуліцах і плошчах. І білі, між іншым, толькі яго. Нават у Вярхоўным Савеце ... білі ... Пад якім жа венікам вы тады сядзелі?.. Барацьбіты за ідэю... маць вашу ...

**ЯНКА.** Пад дыктатурай класа, пад дыктатурай партыі, пад цэнзурай галоўліта, пад каўпаком у Мюллера і ў сексота пад наглядам мы сядзелі. А яшчэ на Калыме, у Варкуце, у Магадане, у "гулагах", якіх на ўсіх шыротах было больш за дзве з палова тысячы.

**БАЗЫЛЬ.** Не хітруй! То да перабудовы было. А дзе вы перад выбарамі, перад рэферэндумамі былі? Чаму вас не відно ні на мітынгах, ні на шэсцях, дзе настаўнікаў дубінамі па галовах малоцяць?! Урэшце, чаму толькі вас не б'юць і не штрафуюць? Я ўжо не кажу пра тое, што ўлады яшчэ ні аднаго пісьменніка не ўпяклі на катаргу... Дзеці, горкія дзеці ўсё лета ў пікетах бароняць свой нацыянальны ліцэй, а паміж імі ніводнага нацыянальнага пісьменніка... А можа вы, адраджэнцы, хоць нешта зрабілі для распрацоўкі вучэбных праграм? Ні храна вы не зрабілі! Мужныя людзі напісалі адзіны больш-менш прыстойны падручнік па гісторыі Беларусі, дык вы і той не абаранілі, калі яго на папяровы млын адвозілі. Адсядзеліся, адмаўчаліся! А ў вас жа пяцьсот пёрцаў! Чаму ж вы іх не прыраўнялі да штыкоў? Пяць рот дызерціраў! Больш за тое, — гэтых пяць рот улады за шыварат выкідаюць на вуліцу і цяпер гэтыя ваякі просяцца пераначаваць ва ўласнай хаце хоць пад лаўкай. Што гэта, як не масавае халуйства перад халуямі?!

**ЯНКА.** А я і не пярэчу.

**БАЗЫЛЬ.** А што ты можаш запярэчыць?! Адзін нехта гадоў сорак таму напісаў "Лысую гару" і да гэтага часу баіцца прызнацца. Праўда, паслядоўнікі Ведзьмака ад часу вытыркаюцца... ананімна. І нядаўна адзін зноў падаў голас з Лысай гары. Не ведаю, як з пункту гледжання паэзіі, а вобраз сучаснага творцы вершаплёт выляпіў, — хоць на выстаўку выстаўляй, як той казаў, у музеі, каб глазелі ратазеі... *(Ідзе да спаранага партрэта з фотаздымкам і дастае адтуль некалькі складзеных аркушаў. Разгладжвае іх на калене і пачынае чытаць.)*

**ГОЛАС З ЛЫСАЕ ГАРЫ**

**1. Будзем знаёмы**

Я не Вядзьмак. Я крыху збоку.
У нас толькі селішча адно –
Будынак мой за дваццаць крокаў
Глядзіць акном у яго акно.

А больш агульнага не многа.
Ён – шляхціц, творца, дэмакрат,
А я – тутэйшы, я – нябога
І канспіратару не сват.

Ён дзень і ноч складае вершы,
Не спіць да самае зары.
Ён ёсць паэта ўжо найпершы.
Ён – класік Лысае гары.

Але ж і мне карціць часамі
У рыфму нешта расказаць,
Бо "мы і самі ўжо з вусамі",
Як той казаў... яго птамаць.

*(Праця́г у наступным нумары)*





*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Новая вера

У тыя часы, калі жыла Рагнеда, на зямлю нашых продкаў прыйшла новая вера – хрысціянства. Людзі адмаўляліся ад ранейшых багоў і пачыналі маліцца Ісусу Хрысту. Яны верылі, што гэта быў пасланы з нябёсаў сын Божы, якога нарадзіла зямная жанчына Марыя. Ісус Хрыстос вучыў праўдзе і дабрыні.

Вучоныя хрысціянскія святары, якіх запрасілі князі, прывезлі з сабою шмат кніг. На славянскіх землях будаваліся цэрквы. Часта іх узводзілі на тых месцах, дзе калісьці маліліся былым багам. Але нашы продкі яшчэ доўга не маглі забыць іх і спраўлялі свае старажытныя святы.

Прыняцце новай веры прынесла старажытным беларусам павагу суседніх народаў, якія ўжо былі хрысціянамі. Болей стала пісьменных людзей. Пры цэрквах адчыняліся школы, дзе дзяцей вучылі чытанню, пісьму і ліку, а таксама спевам.

Побач з цэрквамі будавалі манастыры. Там жылі манахі і манашкі – людзі, якія адмовіліся ад зямных клопатаў, каб служыць толькі Богу. Першаю манашкаю на Беларусі стала Рагнеда. Калі чалавек ішоў у манастыр, яму давалі новае імя. Таму Рагнеду назвалі Анастасіяй.

А што здарылася з яе сынам Ізяславам, што некалі выратаваў маці ад смерці? Пра гэта пойдзе гаворка ў наступным апавяданні.

**Пытанні і заданні:**

1. Што такое летапіс ?
2. Чаму Полацк называюць бацькам беларускіх гарадоў?
3. Паспрабуй намаляваць старажытны Полацк.
4. Як называлася першая беларуская дзяржава? Як звалі яе першага князя?
5. Чаму вяселле Уладзіміра і Рагнеды людзі назвалі крывавым?
6. Раскажы, як Рагнеда з сынам вярнуліся на радзіму.
7. Што прынесла нашай зямлі новая вера?

## Ізяслаў і Брачыслаў

### Жыццё ў разлуцы

Вы памятаеце, як князь Уладзімір адправіў Рагнеду і малога княжыча Ізяслава з Кіева на радзіму?

Для выгнаннікаў пабудавалі горад Ізяслаў, названы так па імені княжыча. Але жорсткі кіеўскі valadar разлучыў маці і сына. Ізяслава завезлі ў Полацк, і больш Рагнеда яго ніколі не бачыла. Яна вельмі сумавала па сыне, які калісьці ўратаваў яе ад смерці, аднак Уладзімір загадаў не адпускаць Рагнеду ў родны горад.

У той час спалены і разрабаваны Полацк ужо падняўся з папялішча. На высокім беразе Дзвіны полацкія майстры зноў пабудавалі магутныя драўляныя сцены. За імі стаялі дамы багатых людзей. Там жыў і княжыч Ізяслаў. Ён таксама надта тужыў па маці.

Са свайго акна Ізяслаў бачыў, як па рацэ плывуць пад ветразямі купецкія караблі.

Хлопчыку хацелася стаць вольным, як людзі на гэтых караблях, ды прыстаўленыя Уладзімірам слугі мелі загад удзень і ўначы сачыць за Рагнедзіным сынам і ні на крок не адпускаць яго ад сябе.

Князя Уладзіміра ў Полацку так ненавідзелі, што ні князі, ні простыя людзі доўга не давалі сваім сынам гэтага імя.

### Першы беларускі асветнік

Рагнедзін сын рана навучыўся чытаць і пісаць. З дзяцінства ён больш за ўсё любіў бавіць час за кнігаю.

Зрабіўшыся дарослым, князь Ізяслаў пачаў клапаціцца пра тое, каб грамаце вучыліся і іншыя палачане. Пры ім у Полацку з'явілася першая школка. Настаўнікамі ў ёй былі вучоныя манахі.

Грамату дзеці асвойвалі па царкоўных кнігах. Спачатку трэба было завучыць на памяць азбуку. Літары называліся больш складана, чым цяпер. Вось вы кажаце "а", "бэ", "вэ", "гэ". А тысячу гадоў назад вашыя равеснікі ўслед за настаўнікам паўтаралі ўголас: "аз", "букі", "ведзі", "глаголь". Якраз ад старажытных назваў дзвюх першых літар і паходзіць слова "азбука".

Пісаць хлопчыкі і дзяўчынкі вучыліся на пакрытых воскам дошчачках або на бяросце – акуратна знятых з дрэва кавалках бярозавай кары. Літары выводзілі пісалам – палачкай, адзін канец у якой востры, а другі – тупы і шырокі. Асабліва зручна было пісаць пісалам на васкаваных дошчачках. Калі зробіш памылку, дык можна хуценька загладзіць воск тупым канцом і напісаць правільна.

Князь Ізяслаў пачаў збіраць першую ў Беларусі бібліятэку. Кніг у той час было мала, і каштавалі яны надзвычай дорага. Друкаваць кнігі людзі яшчэ не ўмелі, і кожную з іх перапісвалі ад рукі. Гэта займала некалькі месяцаў, а часам і гадоў.

Пісалі тады не на паперы, а на пергаменце, які майстры выраблялі з тонкай цялячай скуры. Чарніла рабілі з адмысловых арэхаў, з адвару дубовай ці альховай кары, з жалезнае ржы. У руках перапісчык трымаў добра завостранае гусінае або лебядзінае пяро. Каб напісаныя радкі хутчэй высыхалі, іх прысыпалі пяском. Гэта была складаная і цяжкая праца, а таму перапісчыкаў вельмі паважалі і цанілі. Цудоўна сказаў пра іх наш паэт Максім Багдановіч:

*На чыстым аркушы прад вузенькім вакном,*
*Прыгожа літары выводзіць ён пяром,*
*Устаўляючы паміж іх чорнымі радамі*
*Чырвоную страку; усякімі цвятамі,*
*Рознакаляровымі галоўкамі звяроў*
*І птах нявіданых, сплецennем завіткоў*
*Ён пакрашае скрозь – даволі ёсць знароўкі –*
*Свае шматфарбавыя застаўкі і канцоўкі,*
*І загалоўкі ўсе, — няма куды спяшыць!*
*Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць*
*Пяро гусінае, і гляне: светла сонца*
*Стаўпамі падае праз вузкаеваконца,*
*І крупіцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;*
*Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,*
*Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі*
*У неба ластаўкі шыбаюць над крыжамі,*
*Як жар гарашчымі; а тут, каля вакна,*
*Маліпаўка пяе, і стукае жаўна.*
*І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць*
*Няяркім сераброm; нячутна дзень праходзіць...*



Полацкі летапісец

Магчыма, кнігі перапісваў і сам князь Ізяслаў.

Летапісцы называюць яго кніжнікам, а мы – асветнікам. Асветнік – гэта чалавек, які дбае, каб ягоны народ быў пісьменны, любіў кніжнае слова, жыў у добрай згодзе.

Полацкі князь Ізяслаў быў першым беларускім асветнікам.

### Надзея палачанаў

У князя Ізяслава падрастаў сын Брачыслаў.

Паводле старога звычаю, крывіцкія князі ў тры гады садзілі сыноў на каня, у сем гадоў аддавалі ў навучанне грамаце, а ў дванаццаць бралі на вайну. Ізяслаў паспеў толькі навучыць хлопчыка ездзіць на кані, даў патрымацца за меч ды паслухаў, як бойка малы чытае рукапісную кнігу. Узяць княжыча ў паход ён ужо не змог.

Князь Ізяслаў памёр у маладыя гады. Шмат хто з палачанаў думаў, што яго атруцілі падасланыя Уладзімірам людзі. У Кіеве баяліся, што Полацкае княства зноў стане свабодным.

Брачыслаў застаўся сіратою.

Полацк бярог свайго маленькага князя і глядзеў на яго з вялікай надзеяю. Выхоўваць хлопчыка даручылі самым мудрым баярам. Яны не шкадавалі сіл на тое, каб Брачыслаў рос дужым і спрытным, разумным і справядлівым, каб больш за ўсё на свеце любіў Полацкую зямлю. Кожны дзень князь садзіўся на каня, займаўся практыкаваннямі з мячом, вучыўся кідаць дзіду і страляць з лука.

Палачане марылі, што Брачыслаў разаб'е ворагаў і верне іхняму княству незалежнасць.

### Бітва на рацэ Судоме

Князь вырас і стаў добрым палкаводцам і мудрым палітыкам.

У гэты час у Кіеве валадарыў Уладзіміраў сын Яраслаў. Яму дужа не падабалася, што Полацкае княства набірае сілу і не выконвае ягоных загадаў.

Кіеў задумаў напасці на Полацк. Брачыслаў даведаўся пра гэта ад верных людзей і сабраў баяраў на раду. Палачане вырашылі не чакаць з'яўлення ворага на сваёй зямлі, а самім ісці ў паход на Ноўгарад, які належыў кіеўскаму князю.

Аднойчы полацкае войска быццам з-пад зямлі вырасла перад магутнымі наўгародскімі сценамі і ўзяло горад штурмам. Брачыслаў завалодаў усім суседнім княствам і паставіў там сваіх намеснікаў. Дачуўшыся пра гэтую выдатную перамогу, кіеўскі князь Яраслаў Мудры надта ўстрывожыўся і пачаў збіраць свае палкі.

Па дарозе дадому полацкія воіны раптам убачылі наперадзе непрыяцельскую раць. Бітва паміж палачанамі і кіянамі адбылася на беразе ракі Судомы. Кіеўскія летапісцы запісалі, што Яраслаў перамог, а разбіты Брачыслаў нібыта збег у родны горад. Але гэта была няпраўда. Летапісец проста хацеў дагадзіць свайму князю. Пераможцам з той сечы выйшаў Брачыслаў. А князь Яраслаў не толькі мусіў адступіць, але яшчэ і аддаў палачанам гарады Віцебск і Усвят.

Бітва на рацэ Судоме была ў 1021 годзе. Пасля яе Полацкае княства зноў зрабілася незалежнай дзяржавай.

Полацкая дружына на чале з Брачыславам яшчэ няраз ваявала з ворагамі і вярталася з перамогай. На поўначы Беларусі стаіць на беразе возера горад Браслаў. У старажытнасці ён зваўся Брачыслаўль – у гонар полацкага князя, які заснаваў яго ў адным з паходаў.

Магчыма, у той паход разам з бацькам хадзіў ужо і Брачыславаў сын Усяслаў. Ён стане самым славутым і магутным з полацкіх князёў. Нашы продкі назавуць яго Чарадзеем і складуць пра яго шмат былін і паданняў.

Пра гэтага князя, якога людзі лічылі чараўніком, пойдзе гаворка ў наступным апавяданні.

**Пытанні і заданні:**

1. Чаму ў Полацку доўга не любілі імя Уладзімір?
2. Каго называюць асветнікам? Чаму мы лічым князя Ізяслава першым беларускім асветнікам?
3. Раскажы, як вучыліся дзеці ў старажытнай школе.
4. Адкуль пайшло слова "азбука"?
5. Паспрабуй намаляваць старажытнага перапісчыка кніг. Раскажы пра ягоную працу.
6. Чаму палачане берaглі свайго маленькага князя?
7. У якіх бітвах перамог князь Брачыслаў? Які беларускі горад названы ў яго гонар?
8. Якія ты ведаеш старажытныя беларускія імёны?

## Усяслаў Чарадзей

### Князь – чараўнік

Князь Усяслаў – не толькі самы слаўты з валадароў Полацкай дзяржавы, але і самы загадкавы. Летапісы кажуць, што ён нарадзіўся ад чаравання.

Нашы продкі склалі пра Усяслава багата легенд і былінаў. Яны верылі, што гэты князь мог ператварыцца ў шэрага ваўка, у ясную сокала або ў тура з залатымі рагамі. У адным старажытным творы, які называецца "Слова пра паход Ігаравы", напісана, што Усяслаў Чарадзей спрачаўся з самім богам сонца Хорсам.

Шмат чаго казалі людзі пра полацкага князя. З Кіева ён нібыта чуў, як у Полацку звоняць званы. Мог прадказаць будучыню. Мог, перакінуўшыся ў ваўка, за адну ноч абабегчы ўсю сваю вялікую дзяржаву.

Усе гэтыя былiны беларусы склалі таму, што Усяслаў сапраўды быў чалавек незвычайны: мудры, дужы і смелы. Ён часта трапляў у складаныя становішчы, але заўсёды ўдала выходзіў з іх.

*(Працяг у наступным нумары.)*

